Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана звычайнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Нялрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 6 Вільня, Нядзеля, 8-га жніўня 1926 г. Год I.

**Камісар Ураду на м. Вільню сканфіскаваў № 5 „Народнае Справы“ за стацьцю „Абарона штодзенных інтарэсаў“ і аддзел „Справа амністыі палітычным вязьням“.**

## Пагроза міру.

З цэлага раду вестак, якія за апошнія часы друкаваліся ў газэтах, вырысоўвяецца даволі ясна абраз міжнародавых адносінаў на ўсходзе Эўропы.

Ясна перадусім, што ў Польшчы і ў надбалтыцкіх рэспубліках значна ўзмацаваліся ўплывы Англіі. Ясна, што Англія вельмі хацела-бы аб'яднаць надбалтыцкія дзяржавы з Польшчай, а праз яе—і з Румыніяй, ды гэтак неразрыўным ланцугом акружыць Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік з Заходняга боку. І ясна ўрэшце, што, трывожачы гэтым сваім плянам ССРР, Англія мае на ўвеце *адцягнуць сілы радавых рэспублік* у гэты бок *з Усходу*, бо-ж там, на ўсходзе, уплывы і палітыка ССРР выразна падкапывае панаваньне Англіі. Даволі адзначыць, што ССРР падтрымлівае магутны вызвольны нацыянальны рух у Кітаі, які аружнай сілай хоча вызваліць сваю бацькаўшчыну спад „апекі“ чужынцаў—передусім англійцаў. Даволі прыпомніць ролю камуністычнае прапаганды ў Індыі—гэтай найбагацейшай калёніі Англіі, дзе ізноў-жа йдзе здаўна барацьба індускіх незалежнікаў з англійскімі наездчыкамі. А калі йшчэ да ўсяго гэтага дадаць нездавольства англійскай буржуазіі і яе ўраду тэй падмогай грашмі, якую работнікі з ССРР шлюць сваім таварышам-вуглякопам у Англіі ды гэтак памагаюць ім у барацьбе з буржуазіяй на груньце забастоўкі,—дык лёгка зразумець захады англійскае палітыкі, каб на заходніх узьмежках ССРР стварыць стан сталае трывогі...

На гэтым груньце якраз і адбываецца на нашых вачох дыпляматычная дуэль між Англіяй і ССРР. Як ужо ведама, Чычэрын, каб пазбавіць плян Англіі ўсялякае падставы, зрабіў крок, якім маніцца даказаць сваім надбалтыцкім маленькім суседзям, што *ім* з боку ССРР ніякая небясьпека нападу не пагражае, дык і лучыцца ім з Польшчай ды Румыніяй проці ССРР—няма ніякае патрэбы. Чычэрын проста запрапанаваў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі зрабіць з ССРР умову аб *узаемным ненападаньні*. І вось цяпер гэныя маленечкія рэспублікі, якія самы па сабе зьяўляюцца бяссільнымі з кім-колечы ваяваць, прымушаны зрабіць выбар: згадзіцца на ўваход у проціРадавы саюз пад апекай і кіраўніцтвам Англіі, наперад вырашыўшы сваё ўчасьце ў магчымай на Усходзе Эўропы вайне, як ворагі ССРР, — ці забясьпечыцца ад гэнае вайны прапанаванай Чычэрынам умовай.

Сэнсацыйныя весткі аб стараньнях Англіі—праз пасрэдніцтва Польшчы -- перацягнуць надбалтыцкія дзяржавы на свой бок падае былы эстонскі пасол у Маскве, Бірк. Паміж іншым, ён даводзе, быццам эстонскі міністар замежных спраў Піп, атрымаўшы прапазіцыю Чычэрына ў справе ўмовы аб узаемным ненападаньні, проста *схаваў яе пад сукно*! Зусім таксама, як у 1917 годзе ўрад Керэнскага зрабіў з нямецкай прапазіцыяй аб міры з Расеяй....

Як бачым, уплыў на заходніх суседзяў ССРР, які йдзе з Англіі,—даволі значны. Англійская буржуазія, каб абараніць сваё „сьвятое права“ на рабаваньне індусаў-кітайцаў і іншых заакіянскіх народаў, каб пазбавіць сваіх англійскіх работнікаў падтрыманьня з ССРР,—гатова распаліць новы ваенны пажар на ўсходзе Эўропы. Яна стараецца распаліць апэтыт польскае буржуазіі на літоўскую зямлю, ведаючы, што кожын ваенны крок Польшчы проці Літвы выклікаў-бы ўраз-жа аружнае выступленьне ССРР — у абарону Літвы. І заява францускага маршалка Фоша аб магчымасьці новае вайны ў Эўропе мела на думцы хіба-ж не адны толькі француска-нямецкія адносіны...

Жаданьне Англіі трывожыць ССРР праз Румынію, Польшчу і Балтыку, пэўне-ж, можа так ці сяк адбіцца на міжнародавай палітыцы Радавага Ураду. Але жаданьне гэтае адбіваецца вельмі балюча ў першы чарод на тых землях, якія ў прыпадку вайны аказаліся-бы яе тэатрам,—а перадусім на землях Беларускіх наабапал польска-радавае граніцы. Магчымасьць аружнага змаганьня на нашых землях толькі нарушае духовую раўнавагу насяленьня, нарушае нармальную працу яго. І мы, беларусы, больш, чым хто іншы, зацікаўлены ў тым, каб на ўсходзе Эўропы запанаваў *сталы мір, абапёрты на справядлівым вырашэньні ўсіх тэрытарыяльных спрэчак згодна з воляй народаў, якія тут побач жывуць*. Але такі спосаб вырашэньня палітычных адносінаў магчымы будзе толькі тады, калі не прагавітая на чужыя землі буржуазія, а *працоўныя масы—сяляне і работнікі* — будуць мець рашаючы голас у ўсіх справах дзяржаўнага жыцьця і дзяржаўнае палітыкі, перадусім-жа—у справах *міру і вайны*.

## У Польшчы.

### Сьмерць паэта Каспровіча.

Памёр польскі паэт Ян Каспровіч. Каспровіч паходзіў з сялянскай хаты і ў сваіх творах маляваў жыцьцё і сілу сялянства. З чатырох найвялікшых паэтаў і пісьменьнікаў пакаленьня Каспровіча—Рэмонта, Высьпяньскага, Жэромскага і Каспровіча —ён быў найстарэйшы, але памёр апошні. Усе гэтыя найвялікшыя пісьменьнікі—славілі дэмакратыю і прарочылі панаваньне сялянскай улады ў Польшчы.

### Плян працы ўраду.

„Кур. Поран.“ паведамляе, што зараз-жа пасьля аканчальнага прыняцьця парлямантам законапраектаў аб зьмене Канстытуцыі ды аб паўнамоцтвах урад возьмецца за шпаркае пячэньне дэкрэтаў з моцай законаў. У першую чаргу будзе выданы рад „законаў“ фінансава-гаспадарчага зьместу; пасьля шляхам дэкрэту будзе створана „Рада юрыстаў“ (замест праектаванай правіцай „Рады Стану“), якая будзе папраўляць з боку юрыдычнага, ці папросту рабіць больш граматнымі ды разумнымі „дэкрэтныя бліны“ паноў міністраў. Далей урад сьпячэ яшчэ для нас—„закон аб (ці проці?!) прэсе“. Пасьля пойдуць ужо, як па маслу, закон аб правох чужаземцаў... быць выкіданымі безапэляцыйна за кардон ваяводамі ды старостамі і г. д...

### „Пяст“ трыумфуе.

Пястоўскія газэты — аж захопліваюцца усей працай ураду Бартля-Пілсудскага. Яны пішуць, што „ўрад Бартля толькі праводзе ў жыцьцё праграму, даўно апрацаваную ў ведамай брашуры п. Вітаса—„Часы і людзі“...

Адно толькі яшчэ асталося споўніць ураду Бартля з гэтай праграмы п. Вітаса.—Вось як „папілсудску“ піша аб гэтым „Пяст“:

„Абавязак ураду—яшчэ раз сьвіснуць пугай над галавой лявіцы ды змусіць яе да прыняцьця патрэбных зьменаў у выбарным законе, а... пасьля зрабіць новыя выбары“!

Калі новы ўрад—пасьля „перавароту“—толькі спаўняе праграму п. Вітаса, дык запраўды ж няварта было скідаць гэтага мудрага Вітаса ды „тапіць“ яго... на нятонучым караблі ў моры пралітай крыві сялян і работнікаў!



### Дадаткі да пэнсіяў паном афіцэрам.

„Роботнік“ зьмяшчае запярэчаньне весткі, быццам праектаваныя дадаткі для паноў афіцэраў адложаны на даўжэйшы час. Дадаткі, дый вельмі значныя, пачнуць выдавацца зараз-жа — ад 1-га жніўня. У канцы газэта дадае, што „сярод цывільных урадоўцаў пануе надзея, што ўрад таксама займецца паправай быту дзяржаўных урадоўцаў“...

Ведама-ж: сьпярша — „найдаражэйшая ў Польшчы кроў“, а пасьля—таньнейшая. Усё—па чарзе.—Добра, калі наагул—„пануе надзея“.

### Забастоўка ў Лодзі.

2 г. месяца адбылося паседжаньне делегатаў ад прафэсыянальных саюзаў „instytucyj użyteczności publicznej“.

З прычыны варожага адношаньня другой стараны да мірнай ліквідацыі спору; з прычыны таго, што на прапазіцыі прафэсыянальных саюзаў нат' ня быў дадзены адказ—дэлегаты рашылі аб'явіць агульную забастоўку ў Лодзі.

Забастоўка пачнецца ў чацьвер 5 г. м., а гадз. 8-ай.

Да забастовачнага камітэту прылучыліся і прадстаўнікі работнікаў на „kolejkach dojazdowych“. Вестка аб забастоўцы выклікала ў горадзе вялікае ўзварушэньне.

### Сьледзтва ў справе забойства работнікаў пэпэсаўскай міліцыяй мае быць спынена.

Правадыры ППС стараюцца ўсякімі спосабамі затушаваць сваё злачынства, учыненае першага мая над работнікамі. Урад ідзе ім насустрэчу.

Пасол Прыступа (камуніст) ў часе дыскусіі аб паўнамоцтвах для ўраду—выкрыў, што сьледзтва ў гэтай справе мае быць спынена.

### Веча вольнадумцаў—разагнана!

18 ліпня ў Варшаве мела адбыцца веча польскіх вольнадумцаў (інтэлігентаў, спрыяючых справе працуючых мас).

Уласьнік памяшчэньня ў апошні мамэнт адмовіўся пусьціць іх туды,—ясна пад націскам паліцыі. Арганізатары ўжо не здалелі адклікаць веча, і людзі пачалі сходзіцца.

Пешая і конная паліцыя разагнала зьбіраўшыхся, пры чым арыштавалі 47 асоб.

### Палякі ўцякаюць з польскіх школ.

„Gaz. Warsz. Por.“ ў № 210 падае сэнсацыйную вестку. Газэта піша:

„Значная лічба палякоў у Верхняй Сілезіі ахватней пасылае сваіх дзяцей у нямецкія школы. Сёлетні запіс дзяцей у школы стаўся прагудзеўшым на ўсю Польшчу скандалам.

„У меншай меры, але як-ні-як выявілася падобнае імкненьне да нямецкае школы і на Паморы“.

## Заграніцай.

### Радавая нота Польшчы.

Нямецкія газэты пішуць, быццам Чычэрын зьвярнуўся да польскага ўраду з новай нотай, у якой, у сувязі з гуртаваньнем польскіх войск на літоўскай граніцы, трэбуе, каб польскі ўрад завэрыў, што ён не маніцца аружна захапіць Літву, дый наагул—выклікаць якісь аружны канфлікт на літоўскай граніцы.

Газэты паведамляюць, быццам—дзеля падмацаваньня ноты—радавы ўрад адклікаў свае войскі з манэўраў ды трымае іх на пагатове ў Беларусі і Украіне—на ўсялякі выпадак...

Польская прэса піша, што гэта ўсё — нямецкая брахня. Добра, калі так...

# Як добра у вастрозе!

Пракурорскі Урад, відаць у зьвязку з усё пашыраючымся рухам на карысьць звальненьня з вастрогаў палітычных вязьняў, рашыў наладзіць візытацыю ў турме на Лукішках і паказаць, як там „добра сядзець“!

Запрасілі, ведама-ж, не работнікаў, не таварышоў пасаджаных, ня сем'і іх, каторыя месяцамі ня могуць дабіцца дазволу на пабачаньне, нат не адвакатаў, якія на дзеле, у часе судовых распраў, паказалі сваю бесстароннасьць,—а ўладу: ваяводу Рачкевіча, вышэйшых судовых чыноўнікаў, прадстаўнікоў рэакцыйнай і прадажнай прэсы і.... біскупа Міхалькевіча.

Адміністрацыя турмы мыла, чысьціла камэры, лепш адзела вязьняў і г. д., бо павядомлена яна была наперад аб прыходзе дарагіх гасьцей.

Як і трэба было чакаць пры гэткім складзе візытацыі,—знайшла яна, што „все благополучно“ саўсім, як за царскіх часоў. „Госьці“ прайшлі па турме, біскуп адправіў імшу, у часе якой у казаньні разводзіўся аб любві да бліжняга, а пасьля ўся кумпанія сабралася „на гарбатку“ ў начальніка вастрогу, якому даручана выяўляць на дзеле гэную „любоў“-буржуазнага грамадзянства да барацьбітаў за лепшую долю працоўных....

Прысутны на візытацыі карэспандэнт манархістычнага „Słowa“, вельмі хваліць зупу, якую ядуць вязьні: „Ого,-кажа ён, — папробавалі-б Вы, што за смак!... саланінка, бульбачка... Трэба было папробаваць“.

А побач з гэтым чорным на белым стаіць, што **на ўтрыманьне вязьняў даюць 41 грош у дзень!**

Пражыві за 41 грош у дзень у горадзе, дзе прадукты ў некалькі разоў даражэйшыя, як на вёсцы!

Прыймі пад увагу яшчэ й тое, што гэта турма, дзе бог і пан—„dozorca“, які, як сцьвярдзіла нат соймавая камісія, вельмі часта „жывіцца“ на кошт вязьняў....

Усё ў парадку; а вось, як сцьвярджае візытацыя, у апошнім годзе памёр адзін вязень на сухоты. Ці мо' гэта таксама ад таго, што аб'еўся сальцам і бульбай?!

Ніхто з прысутных на візытацыі ня меў ніякіх уваг, а самі-ж яны сцьвярдзілі, **што больш, як 500 людзей сядзіць гадамі ў сьледчым арышце** і ня могуць дачакацца суда! Гэта — беззаконьне і гвалт, аб якім візытацыя, п'ючы гарбатку, саўсім не гаварыла...

Слава табе, буржуазная справядлівасьць і буржуазная праўда! **Грамадзянін.**

---

пусьціла ўжо 14 кніжачак „Бібліатэкі Беларуса-Выбаршчыка“.

**Ахвяры ў Музэй м. Ів. Луцкевіча.** Урад Бел. Навуковага Т-ва гэтым дзякуе за ахвяры для Музэю: 1) грам. Шыроцкаму ў Вільні—за пятлюраўскі крыж; 2) грамадзянам, злажыўшым у Белар. Каап. Банку 12 розных медных манэт і не пакінуўшым свайго прозьвішча; 3) Ю. Шустэру ў Вільні—за 6 медн. манэт; 4) Аляксандру Мацейчыку ў Рудаўлянах (у Горадз. пав.)—за акамянеласьць і срэбную манэту.

**З Вільні ў Менск.** Праз станцыю Загацьце 3 жніўня прайшоў першы таварны поезд з Вільні ў Менск, на падставе паразуменьня паміж польскім і радавым урадамі аб беспасрэдным таварным руху на гэтай лініі. У той-жа дзень прыйшоў першы поезд з Менску.

З Польшы павязьлі 19 вагонаў каменнага вугальля. З ССРР прывезьлі руду.

**Папраўка.** У празароцкай адозьве да сяброў Грамады пададзены абмылкова подпіс: замест „Міхал Савіцкі“ павінна быць „Міхал Саковіч“.

**Афіцыяльны курс грошы на 6-га жніўня.** Даляр — 8 зл. 98 гр. Залаты рубель — 4 зл. 63 грошы.

6. VIII. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,00 Чырвонец 45 зл.

---

# Карэспандэнцыі.

## Здраднікам будзе горача...

(Піншчына).

Мы, сяляне вёскі Туляцікі, Ставецкай гм., сабраўшыся 12./VII., заяўляем:

У часе выбараў у польскі Сойм мы аддалі свае галасы за партыю ППС (Польская Партыя Сацыялістычная) думаючы, што яна будзе бароцца за зямлю, проціў падаткаў, за родную школу, бо ўсё гэта яна абяцала.

Цяпер мы відзім, што ППС ідзе з абшарнікамі ды капіталістамі, што яна ашукала працоўныя масы.

Пастанаўляем аднагалосна за партыю гэту больш на галасаваць і гнаць яе вон з вёскі, каб больш і сьледу ня было ашуканцаў ды згоднікаў.

Такую-ж самую пастанову прынялі сяляне і вёскі Паўтаранавічы, гм. Гнойшчыцы, Пінскага пав.

## Зьдзекі.

(Двор Вакштаўляны, Гарадынскай гм., Баранавіцк. пав.).

400 дз. добра выробленае сялянамі зямлі—узялі ў арэнду панкі Андрушкевічы (4-х братоў), якія мелі ў Расеі свой уласны двор, але ў 1919 г., прасьледаваныя мяйсцовай люднасьцяй, кінулі яго і ўцяклі ў Польшчу, дзе хутка знайшлі сабе працу ў жандармэрыі. Відаць, на гэтай службе не забываліся яны аб сабе, бо цяпер зрабіліся арандатарамі і даволі заможнымі. У зьдзеках над беднатой арэндатары дайшлі да таго, што некаторым сялянам не заплацілі яшчэ ад вясны зробленых грошаў; парабкоў змушаюць працаваць у сьвяточныя дні, а ардынарыі не даюць ім па два, па тры месяцы. Тых-жа работнікаў, якія рашуча дамагаюцца свайго, пратэстуюць,—панкі б'юць, а пасьля праганяюць з работы. У гэткіх выпадках прагнаны ніколі нічога не атрымоўвае за сваю папярэднюю працу. Вось адно здарэньне, якое мела месца 11./VII. 1926 г.

Адзін з арэндатараў, Кароль Андрушкевіч, загадаў свайму парабку Канст. Купцэвічу працаваць у нядзелю. Парабак адмовіўся. Тады раззлаваўшыся панок паклікаў свайго брата Болеслава і абодва страшэнна зьбілі непаслушнага парабка. Залітага крывёю Купцэвіча прабавала бараніць яго матка—кабета ўцяжку, — але яе спаткала тое, што й сына: арэндатары павалілі яе і, схапіўшы за валасы, цягалі па зямлі і білі. Пасьля гэтага Купцэвічу спакойна сказалі, каб больш на работу ня йшоў, бо грошай не атрымае. „Але-ж аддайце тое, што я ў вас зарабіў!“ — просіць парабак. „Мы табе ўжо зплацілі!“ — адказалі былыя жандары і пайшлі дамоў.

Так застаўся бедны парабак бяз хлеба і бяз працы—будзе сядзець з паўгода і чакаць, пакуль адбудзецца ў гэтай справе суд. А яшчэ ня ведама, ці выйграе... **Ярашэвіч.**

## Улада памагае панам устрайваць забавы.

(Стаўпецкі пав).

І так мы замучаны рознымі натуральнымі павіннасьцямі,—розным важэньнем пяску для засыпваньня рэчак,—а яшчэ мусім памагаць паном забаўляцца. Асабліва душыць нас абшарнік Радзівілл, які ўводзіць паншчыну.

Так 25-га ліпня сёлета гэты Радзівілл устроіў аблаву на ваўкоў. Пры помачы ўлады (старосты і паліцыі) сагналі, ня гледзячы на пільную пару, акалічных сялян на загоншчыкаў, а самы гулялі ў паляўнічых.

**Каля-Радзівіллаўскі.**

## Папы і праца.

(Кобрынь).

У м. Кобрыні рэмантуюць сабор, кідаючы на гэта тысячы злотых, выручаных з прадажы царкоўнай зямлі. Работнікі працуюць там па 9½ — 14 гадз. у дзень. Калі работнікі пачалі пратэставаць проці 10 — 14 гадзіннай працы ды выступілі з жаданьнем 8 гадзіннага дня, кіраўнік работ пачаў у сьвятым месцы гэтак лаяцца, што пісаць нельга.

Пераканаўшыся, што лаянка не памагае, кіраўніцтва работы зьвярнулася да паліцыі, абвінавачваючы абаронцаў 8-гадзіннага дня працы ў камунізьме. Бачучы-ж, што і паліцыя ня можа змусіць да бясплатных надлічбовых гадзін, духоўныя настаўнікі, карыстаючыся з неарганізаванасьці рабочых, выгналі ад працы правадыроў, а застаўшыяся, хаця і неахвотна, далей цягнуць папоўскую лямку, пацяшаныя папамі і царкоўнымі ўжэнднікамі тым, што для Бога ня грэх працаваць і 14 гадзін.

Ад сябе пытаюся папоў, дзякоў, старастаў і т. п. „сьвятых“ урадоўцаў: чаму-ж яны дзеля Бога ня лезуць на рыштаваньне ды не працуюць там, а жыруюць на працы другіх? Няхай-бы папрабавалі скрабаць сьцены ды столь: спэцыяльнасьці ня трэба!

**Работнік.**

## П о ш т а.

(Кобрынь).

Кірмаш. Людзей хмары. Бягуць, сьпяшаць. Стараюцца хутчэй залатвіць свае інтарэсы і паехаць дамоў, бо пара гарачая, у аднаго сена, у другога жыта і г. д.

У паштовым урадзе поўна, — нельга павярнуцца. Але чыноўнікаі ня рупяцца, ім сьпяшаць няма куды, памаленьку прыймаюць лісты, або грошы. Б'е 11 гадзіна, пры ваконцы, дзе адбываецца прыймо заказных лістоў, людзей усё больш ды больш. Вельмі марудна адыходзяць па адзінцы і ўздыхнуўшы бягуць да ваза і дамоў. Прабіла гадзіна 12, ваконца зачыняецца, са славамі „przyjść o godzinie 3“.

Уся пошта працуе, а прыймо заказных устрымоўваецца да гадзіны 3. Але селянін чакаць ня мае часу, трэба дамоў, дык пачынаюцца просьбы. Нарэшце які-колечы служачы „зьлітуецца“ ды скажа: „Idźcie do okienka telegraficznego, tam przyjmię za osobną dopłatę“.

Таўпа прэцца туды. Лісты прыймаюцца жвава і... за кожны, апрача 46 грошоў значка, трэба даплачваць яшчэ 30 грошаў грашыма. І гэтак кожны дзень. Заработак добры. Дзярэ дзяржава, дзяруць і дзяржаўныя чыноўнікі **Беларус.**

## Беларускі спэктакль у Глыбокім.

(Дзісеншчына, м. Глыбокае).

17./VII. быў пастаўлены тут спэктакль-вечарына на карысьць адбудовы Беларускай Гімназіі ў Глыбокім з наступнай праграмай: 1) камэдыя Фр. Аляхновіча „Пан Міністар“, 2) „Лявоніха“ на сцэне і 3) гульні на салі. Загадзя былі расклееныя пекна намаляваныя мастаком Язэпам Драздовічам афішы. У дзень самага спэктаклю прыбыў з Вільні аўтар п'есы і ўзяў на сябе ролю „Пана Міністра“. Не зважаючы на пільніцу жніва і сенаваньня, наплыў грамадзянства на вечарыну, як з Глыбокага, так і з яго ваколіц быў надта вялікі,—саля была перапоўнена да цеснаты. Хаця некаторыя артысты-аматары гулялі першы раз на сцэне, наагул спэктакль вельмі ўдаўся.

Пад час гульні з салі на сцэну сыпаліся букеты кветак. Ня меншае ўражаньне зрабіла, двойчы на bis вызваная „Лявоніха“. Танцавалі тры пары пад гукі ўласнага струннага аркестру. Пасьля гэтага распачаліся гульні на салі. **Глыбачанін.**

# Стыпэндыі для беларускіх вучняў.

(ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ).

Таварыства Беларускае Школы ў Вільні, якое ўтрымлівае Віленскую Беларускую Гімназію, гэтым даводзіць да ведама беларускага грамадзянства, што ў наступным 1926—1927 школьным годзе пры вышэй адзначанай гімназіі адкрываюцца **15 стыпэндыяў** для бяднейшых, але здольных да навукі вучняў-хлапцоў. Стыпэндыя забясьпечвае поўнае ўтрыманьнэ: кватэру, ежу, адзеньне і плату за навуку.

Адначасна Т-ва зьвяртаецца на мясцох да беларускае інтэлігенцыі і наагул сьвядомага грамадзянства з просьбаю, каб далі ведаць Таварыству аб здальнейшых беларускіх бедных дзецях-хлапцох і сіратах, якія ня могуць вучыцца на свой кошт, а іх бацькам і апякуном растлумачыць і парадзіць, каб аддавалі сваіх дзяцей у навуку на стыпэндыю ў Віленскую Беларускую Гімназію.

Агульныя варункі прыйма ў гімназію абвешчаны ў газэце „Народная Справа“ № 4 ад 4 г. жніўня.

Заявы скіроўваць па адрэсу: Вільня, Вострабрамская 9, Дырэкцыя Беларускай Гімназіі.

**Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы.**

# Нам пішуць з вёскі што:

У м. Сарны сабраўшыяся 10. VII. ў ліку 58 работнікі—вынясьлі гэтакую рэзалюцыю:

1) Хаця партыя ППС (Polska Partja Socjalistyczna) хваліцца сваімі ўплывамі сярод насяленьня ў нашай ваколіцы, сцьвярджаем, што такіх уплываў яшчэ ня мае, апрача некалькіх чыгуншчыкаў, якія, баючыся запісацца ў іншую партыю, астаюцца ў ППС — ніхто іншы да яе не належыць;

2) пратэстуем проці чутак, быццам існуюць тутка камітэты ППС на вёсцы і што сяляне вераць ППС. Наадварот. Гэтая партыя так аскандаліла сябе, што ёй ніхто ня верыць!

---

У м. Баранавічах бурмістр Дэмбінскі 28 г. м. так прывітаў работнікаў, што брукуюць вуліцу: „пся ваша крэв!... цож так повольне працуеце, лобузы“?!...

Бурмістр па-хамску зьвярнуўся да работнікаў з тэй прычыны, што ня ўсе яму досыць нізка пакланіліся!

---

У м. Юрацішках паліцыянт Маеўскі, выяжджаючы ў одпуск, забраў з сабой гаспадыню, у якой жыў, а яна ўзноў узяла з сабой 300 зл. мужа ды вопратку, пакідаючы яму двое дзяцей.

---

У Пастаўскім павеце па ўсіх гмінах робяць сьпіскі, хто сколькі і якіх атрымоўвае газэт і іншае літэратуры.

---

У вёсцы Муцьвіцы, Пінскага павету, поп, умовіўшыся з жыхарам Арцёмам даць шлюб яго сыну за 100 зл.,—у царкве патрэбаваў яшчэ пяць. Селянін ня меў, дык „ацец духоўны“ гэтак адазваўся: „Вон бандыты-бальшавікі! тут не бальшавіцкае права, каб змушалі нас вянчаць дарма“! (100 злотых, на якія ўмовіліся і якія поп узяў — ён не палічыў тады!).

Прысутныя былі вельмі абураныя і шмат хто пакляўся больш не паказываць носу ў царкву.

# Паштовая скрынка.

Гр. **„Навічку“ і „Шуту“**. Вашы вершы не падходзяць. Пісаць вершам наагул вельмі цяжка. Папрабуйце прысылаць звычайныя карэспандэнцыі, апісаваючы выпадкі, ды працуйце над паляпшэньнем вершаў. Параўнайце свае з тымі, хаця-б, што ў нас друкаваліся, і пабачыце, як, пакульшто, слаба ў Вас выходзіць.

Гр. **„Аднаму з маладых“**. Ваша адозва да моладзі не падходзіць. Цяпер у „Грамадзе“ стаіць пытаньне, як арганізаваць моладзь. Вось Ваша энэргія і прыгадзіцца на гэта.

**Атрымана:**

Ад:—Базыля Шышкова, Пятра Будзькі, Андрэя Антановіча, Уладзіміра Петкі, Міхала Пяткевіча, Аляксандра Грэся, Язэпа Касьпяровіча, Сьцяпана Палейкі, Уладзіміра Агапончыка, Піліпа Хмура, Аляксандра Руткоўскага, Рыгора Козіка, М. Паўлоўскай, Мікалая Дычка, Аляксея Амельяновіча, Яна Літвіна, Яна Шунэлькі, Паўла Мякіша, Е. Казакевіча, Канст. Ціхановіча, Канст. Галубовіча, Уладзіміра Селецкага, Яна Грышля, Антона Александровіча, Міхала Сурмача, Марціна Вішэйкі, Язэпа Кашаеда, Захара Босага, Ігната Ігнацюка, Антона Гардзея, Яна Юкавіча, Рамана Валаха, Яна Сянкевіча, Мікалая Пацеюка, Дм. Субача, М. Дзядзілы, Язэпа Малчана, Яна Сайковіча—**па 1 зл. 50 грош.**

Адказны-Рэдактар: **Т. Крачына.** Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**